Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№ 11. Вільня, Серада, 23-га сьнежня 1925 г. Год I.



**У гэтым нумары 6 страніц.**

## Старому году—„адходная“.

Выпускаем апошні нумар нашае газэты ў паміраючым Старым—1925 годзе....

Дык выпадае прапяяць яму „адходную“.

Год вялікіх успамінаў—юбілеяў быў для Заходняе Беларусі годам узмацаванае ліквідацыйнае дзеяльнасьці польскае ўлады ў адносінах да нашага культурнага „stanu posiadania“—да нашых культурных здабыткаў.

Зьніштажэньне да канца беларускіх пачаткавых школ... Спыненьне ўсялякае дзеяльнасьці нашых культурных установаў.... Нялічаныя канфіскацыі беларускіх газэт і выданьняў... Тысячы арыштаў сьвядомых беларусаў і дзесяткі палітычных працэсаў....

Вось удары па нашым культурна-нацыянальным вызваленчым руху.

Але гэта ня ўсё: бо-ж, апрача гэтых удараў, назначаных спэцыяльна беларусам, мы цярпелі і ад усіх тых удараў, якія сыпаліся на працоўныя масы Польскае дзяржавы наагул—бяз розьніцы нацыянальнасьці. Наша вёска таксама зруйнавана эканамічна, як і вёска чыста польская,—таксама стогне ад непасільных падаткаў і цяжараў ды адміністрацыйнага самавольства, як і польская....

Цяжкі год, сумны год....

І ўсё-ж такі—не безнадзейны!

Не безнадзейны, бо-ж няспыннае змаганьне за свой нацыянальны і эканамічны быт больш, чым усялякая прапаганда беларускае вызваленчае ідэі, разбудзіла беларускія масы, разьвіла ў іх моц адпору, прывучыла верыць толькі ў свае сілы і спадзявацца толькі на сябе.

І гэта—ўжо вялікае заваяваньне!

Такія-ж вынікі перажытага году бачым мы і ў польскай масе.

Дагэтуль, зачараваныя гучнасьцяй слова: „незалежнасьць“,—польскія працоўныя масы места і вёскі думалі, што „радзімая“ буржуазія, якая ўзяла ўладу над працоўнымі з рук маскоўскае, нямецкае і аўстрыяцкае буржуазіі, самахоць здаволіць усе патрэбы і дамаганьні працоўных. Думалі, што яна зьдзейсьніць іх сацыяльныя ідэалы, дасьць вёсцы зямлю і волю.

Наіўныя! Як-жа балючым аказалася іх расчараваньне! І як трудна цяпер вызваліцца ад тае няволі, якую „радзімая“ буржуазія прыгатавала свайму народу пасьля вызваленьня ад чужацкага панаваньня!

Але ачараваньне фальшывым блескам буржуазнага дзяржаўнага будаўніцтва ўжо мінае і для польскага працоўнага люду. Крапчэе сацыяльная сьвядомасьць сярод працоўных вёскі. Грозныя водгукі плывуць з мест.

„Хлеба і працы!“—вось кліч тых бязмала трохсот тысяч безработных, якіх гаспадарка „радзімае“ буржуазіі выкінула з фабрык і заводаў на вуліцу, засудзіўшы на галодную сьмерць.

„Хлеба і працы!“—з гэтым клічам дэманструюць на вуліцах сталіцы безработныя, ня гледзячы на тое, што кожын раз яны сустракаюць штыхі паліцыі...

Грозны гэта знак для польскае буржуазіі! Так і стаіць уваччу гісторыя апошніх гадоў царскае Расеі...

Трыста гадоў назад вялікі мысьліцель Бэкон пісаў:

„Найстрашнейшыя рэвалюцыі бываюць ад жывата“...

І гэта—зусім справядліва.

І польская буржуазія гэта зусім добра разумее. Саюз польскіх нацыяналістычных партыяў—ад эндэкаў да пэпэсаў — ясна паказуе гэта.

Мала гэтага: апошнія дні прынесьлі новы доказ таго, як буржуазія рыхтуецца даць адпор сваім галодным работнікам. Гэта—угода паміж польскімі эндэкамі і... панам Пілсудскім, якога йшчэ ўчора ўсяляк выклінаді польскія нацыяналісты справа. Перапалоханая не на жарт чырвоным зданьнем рэвалюцыі, аб'яднаная польская буржуазія горнецца пад апякунчыя крыльлі таго, хто ўжо раз здалеў уціхамірыць польскія масы, пакіраваўшы іх выбуховую энэргію на бязмысныя крывавыя войны....

Ці знойдзе цяпер і п. Пілсудскі нейкі выхад з палажэньня? Ці гэты „чарадзей“ здолее нешта наліць—з пустога?!

Сумляваемся. Адказ на гэта дасьць — новы 1926 год.

Стары год спаліў усе неспаўнімыя надзеі і спадзяваньні. Ен раскрыў перад вачыма беларускіх і польскіх масаў усю цяжкую і сумную праўду аб іх палажэньні. І ён вызначыў ужо шлях далейшых падзеяў.

І хоць чорнай панурай зданьню прадстаўляецца нам мінаючы год, ён даў нам усё-ж адзін новы ясны прамень:

— *Веру ў перамогу працоўных*, якая прынясе „вашае і нашае“ вызваленьне.

## Каго мае ратаваць п. Пілсудскі?

Група былых пястоўцаў, стварыўшая разам з былымі вызваленцамі „радыкальны“ Зьвёнзэк Хлопскі (Мужыцкі Саюз), выдае газэтку. „Przyjaciel Ludu“.

У гэтым „Прыяцелі Народу“ вось, што пішацца аб сучасным польскім урадзе:

„Асабовы склад ураду, паказвае што гэты ўрад—выразна і рашуча **працісялянскі**. Дык сялянству трэба рыхтавацца да вельмі цяжкіх спробаў. Ня толькі сялянства ня можа спадзявацца за гэтым урадам якіх-небудзь зьменаў на лепшае, але, наадварот, трэба лічыць на значнае павялічэньне ўціску і ўсялякіх цяжараў. Але-ж доўга гэтак трываць ня можа і ня будзе“.

Пакуль што—усё шчырая праўда.

„І мы добра дагадываемся, хто і як перарэжа гэты пэрыяд паўстаўшай з мёртвых шляхэтчыны і — давядзе нарэшце да Сялянскай Польшчы“.

Калі шчыра сказаць, дык і мы — дагадываемся...

„Няма іншага выхаду,—толькі адзін-адзіны“...

І гэта—праўда.

Але далей, дык ужо запраўдная неспадзяванка: бо ж гэтым адзіным выхадам і ратункам для сялянства ў Польшчы зьяўляецца ніхто іншы, як **„Начэльнік Язэп Пілсудскі“...**

Язэп Пілсудскі, які ў працягу пяці гадоў свайго самадзяржаўя ў Польшчы ратаваў ад сялянства абшарніцкія маёнткі, які аружнай сілай захапляў вялізарныя тэрыторыі, каб аддаць жывучае на іх польскае і няпольскае сялянства пад панаваньне польскага абшарніка і паліцыянта — Пілсудскі, які ў 1919 годзе, разам з сваім міністрам п. Войцеховскім, запраўды патрэпаўску ўсьмірыў батрацкую забастоўку і работніцкі рух у Варшаве і Лодзі, які падтрымліваў яе...

Так, гэты-ж самы Начальнік Пілсудскі, бо іншага ў Польшы няма.

Але-ж — што мы будзем вучыць паноў польскіх „сялянскіх радыкалаў“! Усё гэта яны самі вельмі добра ведаюць. Бо ня хто іншы, як сам іх правадыр пас. Брыль, вось, што з соймавай трыбуны аб тым самым самым п. Пілсудскім сказаў, зьвяртаючыся да паноў польскіх абшарнікаў:

„Сялянскія масы менш абязаны ўдзячнасьцю пану Пілсудскаму, чым вы, паны абшарнікі,—але сялянскія масы... любяць Пілсудскага, як нацыянальнага героя, які... адбудаваў незалежнасьць Польскай Дзяржавы. Вы таксама дасталі з яго рук незалежнасьць, але вы атрымалі яшчэ нешта большае: бо гэта ён уратаваў вашае жыцьцё і вашы маёнткі — у 1918, 1919 і 1920 г. г.

Вось-вось—гэта-ж добра ведаюць, дый—за гэта-ж і кахаюць Пілсудскага розныя радыкальныя і сацыялістычныя сынкі польскіх абшарнікаў...

Але пас. Брыль, таксама, як і мы, дагадаўся яшчэ аб нечым цікаўнейшым:

„Хай-бы я быў лепш фальшывым пракокам, але я прадбачу, што прыдзе, дый можа незадоўга, мамэнт, калі вы, паны абшарнікі, (ізноў) будзеце прасіць пана Пілсудскага, каб ён узяў уладу ў свае рукі, — каб (ізноў!) ратаваць вас ад таго, чаго вы баіцёся найгорш у сьвеце“.

Вось гэта — дык праўда. Мы — не пракокі, але добра прадбачым гэтае-ж самае, бо толькі ў апошнім нумары пісалі аб гэтым у зьвязку з сэнсацыйным візытам правадыра эндэцыі п. Пілсудсага — у справе „паразуменьня“.

Можна толькі дадаць, што тое, чым так страшаць сваіх бацькоў-абшарнікаў іх радыкальныя сынкі, ня менш страшна і для іх самых... Дык якраз у гэтым і караніцца іх любоў да Пілсудскага. Толькі пытаньне: што ўсё гэтае мае супольнага з сялянствам, якое, пэўна-ж, больш мае падставаў баяцца адратаванага на яго карку абшарніцтва, як таго, чаго гэтае абшарніцтва „баіцца горш за ўсё на сьвеце“.

Цікава ўканцы дадаць — для характэрыстыкі мешаніны ў галовах правадыроў польскага „радыкальнага хлопаманства“ — што рэдактар „Прыяцеля Люду“ пан Стапіньскі і пас. Брыль—два галоўныя лідэры (правадыры) клюбу і партыі „Зьвёнзэк Хлопскі“. Але п. Стапіньскі кажа, што Язэп Пілсудскі — адзіны ратунак... **для сялян** у Польшчы. А п. Брыль сцьвярджае, што той жа Язэп Пілсудскі — адзіны ратунак **для польскіх абшарнікаў...**

Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаёмаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!

растраты, забойствы, самагубствы выразна кажуць аб тым, што грамадзянства траціць веру ў будучыну таго, што яно адратавала і стварыла... Тая лёгкасьць выбуханьня панікі пры найменшай няўдачы, як і перавялічанае захопленьне „пыхай“ пры кожнай „перамозе“ чужымі рукамі—выразна сьведчыць, што польскае грамадзянства пачало траціць прынцыповую духоўную раўнавагу і веру ў свае сілы.

Маральна-псыхічная хвароба польскага грамадзянства—па-за межамі ўсялякага сумляваньня...

### Азброеным тварам—да вёскі...

Што-ж робіць валадаючая цяпер Польшчай буржуазія, каб ратавацца ад пачаўшайся ўжо катастрофы? Ці кіруючае дзяржаўным жыцьцём польскае грамадзянства робіць што дня аздараўленьне і ўмацаваньне фундамэнту пад гмахам сваей дзяржавы?.. Ці робіцца што ў Польшчы для гэтых трох чвертак працоўных яе насяленьня, ад здароўя і сілы якіх цалком залежыць самае істнаваньне Польшчы?..

На гэтае пытаньне мы павінны шчыра і проста адказаць, як ёсьць: Для сялянства ў Польшчы, як не рабілася, так і ня робіцца абсалютна нічога... Проціў сялянства, а перад усім проці няпольскага сялянства ў Польшчы рабілася дагэтуль усё магчымае. А толькі-што — дзеля давяршэньня паняволеньня і яго руіны—створаны агульны і супольны процісялянскі фронт усіх польскіх мястовых і абшарніцкіх партыяў — ад эндэкаў да пэпэсаў уключна — ў пастаці сучаснага ўраду Скшыньскага—Зьдзеховскага—Керніка — Морачэвскага...

### Аканчальная падсумоўка.

Дык—ці-ж ня ясна, што многапакутнаму сялянству ў Польшчы—нядоўга чакаць: сама сеўшая на яго карк, уеўшаяся ў яго цела буржуазія найляпей выпаўняе сваю запраўды-ж „гістарычную“ роль самазагубсва... Створаная чужымі рукамі, чужым гатовым багацьцем, сучасная панская Польшча сваімі ўласнымі рукамі ўмее толькі губіць самую сябе!

Агульны вывад з усяго дасьледу 7 запраўды „баечных“ гадоў істнаваньня ўваскрашонай буржуазным Захадам фэадальна-буржуазнай панскай Польшчы хай зробіць само польскае грамадзянства тэарэтычна... Практычна — вывад будзе зроблены сялянскімі і работніцкімі масамі краю.

Шалёнае, баечнае шчасьце, усе магутныя сілы і вялізарныя срэдствы буржуазнага пекла і раю,—усё было ахвяравана з боку Заходніх саюзных дзяржаў польскай буржуазіі, каб толькі яна затрымала пагражаўшую буржуазнаму Захаду з Усходу небясьпеку.

Шалёнае, баечнае шчасьце гістарычнага мамэнту, энтузіязм адурманеных патрыётычнымі лёзунгамі залішне даверчывых народных масаў, уся магутная дапамога з боку буржуазіі Захаду ўсё, здавалася, дапамагала Польшчы ў яе „адраджэнскай працы“...

І вось—за нейкія 7 гадоў—балянсы і вынікі гэтай „працы“ найтрафней падсумаваў сам галоўны бухгальтэр сучаснай буржуазнай Польшчы, яе міністар фінансаў. Агульны балянс гэты каротка азначаны ім, як—„пустыя касы“...

— Пустыя касы дзяржаўнага скарбу, якія можна напоўніць нанова толькі... інфляцыяй!

— Пустыя касы маральнага даверыя ўнутры краю да ўлады, якія можна напоўніць толькі... павялічэньнем паліцэйскіх рэпрэсіяў!

— Пустыя касы палітычнага прэсьціжу (павагі) заграніцай, якія можна напоўніць толькі... пышным красамоўствам дыпляматычных паваў!

(Далей будзе).

## Гутарка міністра скарбу з журналістамі.

Міністар Скарбу п. Зьдзеховскі зрабіў новае „экспозэ“—ўжо перад варшаўскімі журналістамі: трэба было—праз прэсу—паведаміць край аб тых новых здарэньнях і мерах ураду, якія мелі мейсца пасьля першага экспозэ міністра.

Дык вось і мы з гэтага новага экспозэ дамо толькі гэтыя галоўныя факты, сцьверджаныя міністрам.

Перад усім міністар сцьвярдзіў вялікую вагу пастановы Сойму, прыняўшага так званы „провізорыум“ (частковы бюджэт) на 3 першыя месяцы 1926 г.—замест, як нармальна бывае, адразу на цэлы год. Гэты бюджэт, як сцьвярджае міністар, не прадбачыць ніякіх дадаткаў для ўрадоўцаў на дарагоўлю.

Гэта—вельмі выгадна для скарбу, кажа міністар. Так, але гэта-ж робіць бюджэт нерэальным, бо—залежным ад таго, ці здоле ўрад вырашыць задачу барацьбы з дарагоўляй, што—вельмі сумліўна...

Дзеля таго-ж і зробленае абмежаваньне бюджэтных выдаткаў толькі на 40 мільёнаў выдаецца таксама нерэальным. Адсюль і абяцаньне зьменшыць гадавы бюджэт да 1 мільярда 400 мільёнаў—таксама дае мала веры.

Міністар абяцуе рашучую і пляновую барацьбу з дарагоўляй і спэкуляцыяй. Але-ж сам п. міністар дадае, што настроі, пануючыя ў грамадзянстве, робяць гэтую барацьбу вельмі цяжкай. Можна дадаць і тое, што... магутныя ўплывы, пануючыя ў урадзе, — ўплывы абшарнікаў, прамысловцаў і буйных гандляроў экспортэраў,— робяць гэтую „барацьбу“ зусім нерэальнай. Такі ўрад, які ёсьць, нічога паважнага ў гэтай галіне зрабіць ня будзе здольным.

Найцікаўней тое, што п. міністар сказаў аб Польскім Банку.

Міністар адкрыта прызнаўся да поўнага банкруцтва Польскага Банку, заявіўшы, што „гэтая ўстанова ня здолела выканаць тых мэтаў, дзеля якіх яна была створана: рэгуляваньня грашовага абароту і крэдытаваньня краёвай прадукцыі“...

Міністар кажа, што дзеля магчымасьці выкананьня гэтых задачаў Банк павінен — павялічыць свой асноўны капітал...

Як заўсёды, міністар кажа праўду, але далёка—ня ўсю... Можам дапоўніць інфармацыі п. міністра данымі загранічнай прэсы.

Найпаважнейшы орган англійскага капіталу „Таймс“ дае больш падробныя даныя аб запраўдным банкруцтве Польскага Банку. Англійская газэта сцьвярджае, што злотыя, выпушчаныя Банкам, маюць так званага „пакрыцьця золатам“ толькі на—18 працэнтаў,—тады як, паводле Статуту Банку, найменш павінна быць 30 прац... Далей „Таймс“ сцьвярджае, што ніякіх „рэзэрваў“ (запасаў валют) у Польскім Банку ўжо няма

Міністар кажа, што Польскі Банк, каб ізноў здолеў выконываць сваі задачы, павінен павялічыць свой капітал. А з прычыны таго, што капіталу ў Польшчы няма, прыдзецца... „дапусьціць у Польскі Банк капітал загранічны“... І аб гэтым „дапушчэньні“ адбылася ўжо вельмі важная пастанова Управы Польскага Банку... Але і тут тая-ж газэта „Таймс“ дадае да гэтай інфармацыі п. Міністра нешта вельмі цікавае: яна піша, што замежны капітал згодзіцца памагчы банкруцтву Польшчы і яе Банку, але ня інакш, як пад варункам—свайго кантролю...—Бо грошы—такая дэлікатная рэч, а той, хто змарнаваў свае, ведама-ж ня здольны шанаваць чужыя...

Далей пан міністар заявіў, што ўрад ужо заключыў умову з паважнай амэрыканскай фірмай—аб аддачы ей у арэнду дзяржаўнай тытуновай манаполіі.

Гэта ўжо ня толькі кантроль, але нешта большае: гэта значыць пусьціць у край новага замежнага гаспадара, які будзе перад усім лічыцца з сваімі выгадамі, ня лічучыся з нявыгадамі краю...

Гэтым усім бліжэйшы шлях Польшчы азначаны вельмі ясна: шукаючы ратунку ня ўнутры, але вонках, баючыся больш за ўсё абаперціся на народ, польская ўлада сілай рэчаў аддаецца ў апеку, пад уладу замежнага гаспадара, пачынае распрадаваць яму рэгаліі і маемасьць Польскай дзяржавы...

Польская буржуазія, каб толькі ўтрымаць уладу над народнымі масамі, згадзілася ўжо на кантроль, апеку і кабалу загранічнага капіталу... Але—вялікае пытаньне яшчэ, ці згодзяцца на гэтую падвойную кабалу, на гэты падвойны вызыск працоўныя масы краю?!

# Сойм.

### Апошнія паседжаньні.

Паседжаньне 17 сьнежня было занята другім чытаньнем бюджэту на 3 першыя месяцы 1926 г. Бюджэт прыняты ў суме 406 мільёнаў 727 тысяч 236 злотых.

Як бачым, эканоміі міністар скарбу зрабіў вельмі мала. Дык ці ўдасца яму з'эканоміць аж 500 мільёнаў за год,—яшчэ вялікае пытаньне!

Сам дакладчык камісіі сцьвярдзіў, што рэальным гэты бюджэт будзе толькі пад варункам, што ўрадоўцам ня трэба будзе дадаваць на дарагоўлю, і—што ўтрымаецца на належнай вышыні (хаця тэй, што цяпер...) злоты. „Дабіцца гэтага—абавязак ураду“...

У бюджэце значна абрэзаны пэнсіі і яшчэ значней усялякія дадаткі ўрадоўцам. Але і гэта ўсё—нерэальна, бо дарагоўля можа зваліць усе гэтыя меркаваньні.

Галоўная хіба бюджэту якраз у гэтым.

Другім важным і зьвязаным, як бачым, з першым законапраектам, які Сойм прыняў аканчальна, быў закон аб „забясьпечаньні на рынку прадуктаў першай патрэбы“—ці якраз—аб барацьбе з дарагоўляй.

Ясна, што толькі абодва гэтыя варункі: сталасьць злотага і сталасьць цэнаў—могуць зрабіць рэальнымі ўсе аблічэньні і ўсе ашчаднасьці міністра скарбу. А якраз гэта—найтруднейшая і найбольш сумліўная задача для буржуазна-абшарніцкага ўраду Скшыньскага, у значнай меры заінтэрэсаванага ў даргоўлі..

На апошнім паседжаньні Сойму, 18 сьнежня, быў прыняты аканчальна бюджэт на тры месяцы 1926 году—галасамі ўрадавай большасьці — проці славянскіх меншасьцяў: беларусаў і ўкраінцаў, сялян-незалежнікаў і камуністаў.

Прыняты некалькі рэзалюцыяў:

Пасла **Сохі**—аб зьменшэньні лічбы самаходаў у дзяржаўных і самаўрадавых установах. Ведама, што самаходы купляліся амаль ня выключна дзеля таго, каб паны вышэйшыя ўрадоўцы, а ў самаўрадах—паны старосты і іх жонкі — мелі на чым катацца.

Пасла **Строньскага**, — каб безадкладна была апрацавана грунтоўная рэарганізацыя дзяржаўнае адміністрацыі—у зьвязку з зьменшэньнем выдаткаў на яе.

Таго-ж **Строньскага**, каб урад скасаваў чым больш пасадаў школьных інспэктароў, — запраўды-ж: нікому непатрэбных, а толькі плодзячых

---

— Замаўчы ўжо! Стары, як малы!—злавалася Тэкля.

— А ты, брат—баба, зусім дурная авечка! — апраўдываўся Цыпрук,—ці ты ня бачыш, што твой Лаўручок зусім чужым зрабіўся для нас з таго часу, як папаў пад панскую апеку? Нешта ня цешыць ён мяне!..

Гэдак, не пераканаўшы яе, Цыпрук скора і паехаў на той сьвет.

Старая Тэкля асталася адна, і тады яшчэ болей запанавала ў душы яе цяга да сына свайго Лаўручка. Гэта быў увесь скарб яе. Матчына сэрца адкрыла ўсе таемнікі свайго адвечнага каханьня.

Заўсёды, калі была яна адна, то думала аб сыну сваім і дзякавала Богу, або, у суседак быўшы, гаварыла, што сынок такі і гэтакі і дзякавала Богу.

Смачна ей была сухая скарынка хлеба, а калі хлеба скупа было, дык і так было добра...

Эт,—думала яна,—дык што-ж там... абы толькі хацела, дык у Лаўручка свайго вунь як зажыла-бы!.. абы толькі хацела!.. але пакуль-што дзякаваць Богу!..

— Эх, Тэкля! Тэкля!—гаварылі ей часта суседкі—паехала-б да сына ў горад! Ці табе гэтак і век свой дажываць аднэй? Ніхто-ж на магіле тваёй не заплача—не загалосе... Ты-ж адна, як корч той на пасецы!..

— І дзякаваць Богу!—адказывала яна — абы толькі захацела! Мой Лаўручок гэткі багаты, як людзі кажуць, што бадай багацей ужо за самага пана Шчубальскага! абы толькі захацела!

Гэтак прайшла яшчэ пара гадоў. Зрабілася Тэкля сухой, нізенькай, згорбленай старушкай, — зморшчаная, як той грыб, бытцам зямля цягнула яе да сябе ўжо...

— Вось дурная!—казалі людзі—маець гэткага багатаго сына, а сама бадзяецца невядома як і дзе!

* * *

Падыйшлі Каляды. Увесь Божы абшар быў пакрыты чыстым, белым сьнегам... Вёскі былі занесены гурбамі, бытцам казачныя замчышчы... А лес зрабіўся гэткім прыгожым у белым уборы сваім,—проста назьдзіў.

Усе рыхтаваліся на сьвята, толькі старой Тэклі сумна было на душы...

— Бадай апошнія Каляды прыдзецца мне справіць: зусім ужо я слабенькай зрабілася...

Не хацелася ей аднэй астацца ў пустцы сваёй, каля лесу, і пад жудасным выцьцём ваўкоў куцьцю ладзіць..

І давай, бытцам гарачыя вугальлі, закрытыя попелам, выгартаць з сэрца наверх свае захаваныя жаданьні, сваю глыбокую веру ў даражэнькага сына...—Давай—думае — дабяруся я ўжо да яго... бадай ці дацягну да вясны... Шмат дакучаць я яму ня буду тамака, бо дзе яму там клапаціцца аба мне! І шкада-ж яго...

— Пайду да сына!—разьнясла яна назаўтра па ўсей ваколіцы і гэтак намалола ім рознай гутаркі, што проста ўсіх суседаў зайздрасьць прабрала: жартачкі—гэткага сына маець! Ен там у судох цэлы асэсар, паперы піша і ўвесь сьвет проста да гары нагамі вернець.

Ускінула Тэкля хатулачку на плечы, пару лапцей на запас узяла і, папрашчаўшыся з бабамі, пусьцілася ў дарогу. Да гораду было міль шэсьць.

Выбралася раніцай на сьнежнае поле і цешылася.

Ажно памаладзела, — якраз на Каляды, на гэткае сьвятца пападзе к Лаўручку!

Кажуць, ён там ажаніўся з багатай паненкай, напэўна ўнукі—жэўжыкі ёсьць ужо! І ўсьміхнулася яна шчасьліва...—Дзякаваць Богу — выгаварыла яна перапоўненым сэрцам і адвярнула таўстую хустку ад вачэй, каб разглядзець, ці шмат ужо дарогі прайшла.

— Уга!—і ня думала, проста ногі самі нясуць мяне, якбы трыццаць гадоў таму назад, і марозу ня дбаю!

І яшчэ з большым імпэтам нясьлі яе старыя ногі да роднага сына на Каляды...

І шчасьце яе расло... Вось, дзе жаданьне сэрца яе споўніцца!.. вось, калі зажывець яна, як сыр у сьмятане!.

— Глупства, што часамі нябожчык Цыпрук гаварыў... Як гэта ён мяне ня прымець? — я-ж яго матка!... я-ж яго гадавала і карміла... ён жа ўся пацеха мая...

* * *

О вера, сьляпая і моцная! У якіх бы формах ты ні выяўлялася ў душы чалавека, а заўсёды нешта вельмі прыемнае шэпчаш гаротніку на вуха, і лягчэй робіцца ярмо на балючых плечах... Скуль бярэш ты свой дзіўны напітак?... Як няшчасны тыя, у каторых вера нішчыцца, як туман... чалавек робіцца адзінокім... адзінокім... і гінець без сваей апошняй апоры...

* * *

Скончыўся дзень. Тэкля начавала ў незнаёмай вёсцы. Добрыя людзі накармілі яе і абагрэ-

лішнюю перапіску; а на „крэсах“—дык галоўных ворагаў асьветы...

Выбраны некалькі камісіяў і прыняты рад дробных законапраектаў у другім чытаньні.

Цэлую буру абурэньня выклікаў факт пазбаўленьня маршалкам Сойму голасу пасла Бона, які падтрымліваў сьпешную прапазіцыю ў справе ўжываньня паліцыяй у Заверцю—пры разганяньні дэманстрантаў-безработных—газавых бомб. Абурыліся, ведама, толькі крайнія левыя і славянскія меншасьці, ды з іх лаваў раздаваліся вострыя крыкі проці маршалка Ратая.

Наступнае паседжаньне адбудзецца 28 сьнежня—для аканчальнага прыняцьця, пасьля разгляду іх у Сэнаце, бюджэту і „санацыйных законаў“ (праектаў ратаваньня скарбу) мін. Зьдзеховскага.

## ІНТЭРПЭЛЯЦЫЯ № 16.

паслоў Клюбу Беларускай Сялянскай Работніцкай Грамады да п. Міністра Справядлівасьці ў справе пагвалчэньня пракурорам і акружным судом у Вільні ўставу з дня 31 ліпеня 1924 г. аб мове ўрадаваньня судоў, урадаў пракуратуры і нотарыятаў.

30 лістапада 1925 году Акружны суд у Вільні разглядаў справу рэдактара Браніслава Туронка, вінавачанага з арт. 129 і 263 К. К. Старшынстваваў судзьдзя Іодзевіч, асыставалі судзьдзі Гаўрылькевіч і Пілсудскі, абвінавачваў падпракурор Раўзэ.

Пры прысязе сьведкаў—сьведкі: Ігнась Лукіяновіч, Радаслаў Астроўскі, дэпутат Пётра Мятла, дэпутат Фабіян Ярэміч і другія дамагаліся складаньня прысягі пабеларуску. Пан падпракурор гэтаму спраціўіўся, суд вышаў на нараду і па нарадзе—дзеля таго, што сьведкі зноў дамагаліся належнага ім права карыстацца ў судзе роднай ім беларускай мовай, — суд зусім звольніў сьведкаў ад абавязку складаньня прысягі.

Гэты факт ярка паказвае на пагвалчэньне ўспомненым падпракурорам і судом у Вільні Канстытуцыі, а таксама і адпаведнага ўставу, які на беларускіх землях мае абавязываючую моц.

Бяручы пад увагу, што арт. 2 пункт I ўставу з дня 31. VII. 24 году (Дз. Уст. 1924 г. № 78, роз. 757) ясна кажа, што „стораны і сьведкі маюць права карыстаньня ў Судох і пракурорскіх урадах роднай мовай“, што гэты ўстаў гарантуе беларусам карыстаньне роднай мовай пры ўсялякіх актах, паведамленьнях і паказаньнях, як у судзе так і ў пракуратуры, што вымаганьне Акружным Судом у Вільні 30. XI.-25 г., каб сьведкі складалі прысягу папольску, зьяўляецца пагвалчэньнем вышэйуспомненага ўставу і ня можа апірацца на якое-небудзь тлумачэньне выражэньняў у гэтым уставе, бо-ж арт. 109 і 110 Канстытуцыі гарантуе грамадзянам права захоўваньня свае мовы і нацыянальных асаблівасьцяў, і маючы на ўвазе, што выкананьне ўспомненага ўставу на моцы арт. 9 гэтага ўставу даручана Мін. Справядлівасьці,—мы, ніжэй падпісаныя, пытаем у п. Мін. Справядлівасьці:

1) Ці маніцца ён выясьніць прычыны пагвалчэньня Акружным судом у Вільні ясна паданых у ўставе з 30. VII. 24 г. (Дз. Уст. № 78 паз. 757) правоў грамадзян Польшчы беларускае нацыянальнасьці?

2) Ці маніцца на будучыну, як трэба, павучыць Акружны Суд у Вільні аб недапушчэньні вышэйапісанага трактаваньня беларускіх сьведкаў?

Варшава, 14. XII. 25 г.

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Водгукі эндэцка-пэпэсаўскай „эканоміі“.

Аб'яднанае вучыцельства сярэдніх школаў Варшавы, сабраўшыся на мітынг, вынесла рэзкую рэзалюцыю, у якой рашуча пратэстуе проці зьмяншаньня і без таго паўгалоднай пэнсіі вучыцялём.

Вось гэтая рэзалюцыя:

„Пазнаёміўшыся з новым законам аб пэнсіях дзяржаўным урадоўцам, на моцы якога фактычна амаль не напалову зьмяншаюцца на тры месяцы новага году іх пэнсіі, сабраныя з абурэньнем пратэстуюць проці гэтага.

„Сабраныя з усей энэргіяй заяўляюць, што ў часе шалеючай і ўзрастаючай дарагоўлі і спэкуляцыі рабіць „санацыю“ дзяржаўных фінансаў коштам і без таго галодных пэнсіяў дзяржаўных урадоўцаў—гэта-ж пярэчыць усім падставам грамадзкай справядлівасьці. Да таго—гэткія меры не вырашаюць зусім задачы аздараўленьня фінансаў і, як зусім нерэальныя, ня вытрымаюць спробы навет першага месяца“...

Падобныя мітынгі адбыліся і адбываюцца ў Варшаве і сярод урадоўцаў іншых галін працы.

17 сьнежня ў вялізарным гмаху цырку ў Варшаве сабраліся на супольны мітынг усялякага роду дзяржаўныя ўрадоўцы. Мітынг прыняў няменш рэзкую рэзалюцыю, пратэстуючую проці „давядзеньня дзяржавай сваіх працаўнікоў да ўбожства спробай узлажыць на іх слабыя плечы ўсё берамя санацыі фінансаў краю“...

17 сьнежня дэлегацыя прафэсіянальнага саюзу чыгуншчыкаў зьвярнулася да прэм. Скшыньскага і міністра чыгункі Хондзыньскага — з мэмарыялам, пратэстуючым проці абніжэньня пэнсіяў. Прэм'ер красамоўна адказаў, што ён асабіста „мае ўсе добрыя надзеі, што злыя часы хутка скончацца“... і г. д.

Міністар Хондзыньскі таксама заявіў, што — „зробіць усё магчымае“.—Бо-ж, натуральна —немагчымага ня зробіць!

### Дэманстрацыі безработных у Варшаве.

Апошнія дні ў сувязі з узростам дарагоўлі і павялічэньнем безробоцьця—адбыліся чысьленыя дэманстрацыі безработных. Усе спробы таўпы безработных падыйсьці да Сойму спыняліся паліцыяй, якая жорстка разганяла „дэманструючых“.

Не абыйшлося, зразумела, бяз чысьленых арыштаў „агітатараў“, якімі—дык ясна-ж! — былі камуністы... Бо—ці-ж не камуністы вінаваты ў тым, што галадае без работы польскі работнік, якога так шчыра ахоўвуюць і бароняць — паны пэпээсы?!

Што паліцыя крэпка пабіла пры гэтай добрай нагодзе безработных работнікаў, аб гэтым падалі інтэрпэляцыю ў Сойм навет паслы з „Клюбу Працы“.

### Пазыка, кантроль, ці—апека?

У зьвязку з падпісанай быццам ужо ўмовай польскага скарбу з амэрыканскай фірмай — аб арэндзе тытуновага манаполю, а таксама ў зьвязку з праектаваным „дапушчэньнем“ да ўчасьця ў Польскім Банку загранічнага (амэрыканскага) капіталу,—у Варшаву едзе некалькі выдатных амэрыканскіх фінансістаў. Едзе цэлая камісія, якая мае мэтай на мейсцы пазнаёміцца з гаспадарчым станам Польшчы. З Нью-Іорка выехаў выдатны знаўца фінансавай гаспадаркі нейкі Крэмэрэр, які мо' якраз і будзе, — як гаворыцца дэлікатна, — „фінансавым дарадцам“ Польшчы, а пасутнасьці— яе фінансавым дыктатарам, калі толькі праектаваныя пазыкі здзейсьвяцца...

### Новы загад ураду аб чужых валютах.

Міністар Зьдзеховскі выдаў новы загад у справе абароту загранічных валют у краі.

Паводле гэтага загаду — купляць валюты і прадаваць можна будзе толькі ў банках, якія маюць на гэта права, ці — у аддзелах Польскага Банку. Але на куплю трэба мець асобны дазвол ад скарбовае ўлады.

Што датычыць дэпазытаў (укладаў) у банках, дык можна і далей рабіць гэтыя ўклады ў якойхоч загранічнай валюце.

### Колькі каштаваў працэс Штэйгера.

Па прыблізным падлічэньням антысэміцкі працэс Штэйгера каштаваў „эканомнаму“ польскаму ўраду—аж 60,000 зл.

### Пан Ліндэ звольнены пад залог.

Калі сьледчая ўлада разглядзелася добра ў-ва ўсіх „дабрадзействах“ былога Старшыні Дзяржаўнай Пазычковай Касы, п. Ліндэ, дык зажадала ад яго ня 250.000 зл. залогу, але — паўмільёна злотых. Толькі тады згадзіўся пракурор выпусьціць „высокага зладзея“ з-пад лагоднага дамовага арышту...

І вось, п. Ліндэ гэты залог палажыў і—ізноў на волі... Дзіва, што, пакраўшы мільёны, даў паўмільёна! А кажуць, што ў Польшчы няма грошаў, кажуць, што ў ёй урадоўцы — бедныя і мала зарабляюць...

### Пасол Гэльман выйшаў з „Вызваленьня“.

Пасол Гэльман, выбраны з нашых беларускіх „Крэсаў“ па сьпіску „Вызваленьня“, выйшаў з гэтай партыі і з Соймавага клюбу яе. У заяве сваей да старшыні Сойму ён кажа, што скіроўвае сваю „справу“ да суда чэсьці. З гэтага відаць, што прычыны выхаду—нейкія асабістыя. Мо' папросту — пабіліся паны „вызваленцы“, ня маючы чаго іншага да работы?!

## Заграніцай.

### Урадавы крызіс у Латвіі.

Пасьля адмовы блёку меншасьцяў ад прапазіцыі Прэзыдэнта стварыць урад, пачын выхаду з крызісу ўзяў на сябе—сялянскі блёк. Блёк сялянскіх партыяў пачаў гуртаваць навакол сябе шырэйшую коаліцыю, у якой можа прымуць учасьце і некаторыя меншасьці. Праграма коаліцыі, здаецца, ужо апрацавана, і можна спадзявацца ў хуткім часе новага ўраду, у цэнтры якога стаяць сяляне. Вось першыя вынікі правільна праведзенай зямельнай рэформы і наагул больш-менш дэмакратычнага ладу ў краі.

### Урадавы крызіс у Нямеччыне.

Пасьля адмовы нацыяналістаў падтрымліваць урад Лютэра—за тое, што ён падпісаў Лёкарнскія Трактаты, урад страціў большасьць у Рэйхстагу (Сойме) і пасьля аканчальнага падпісаньня Трактатаў выйшаў у адстаўку.

І вось, адгэтуль амаль ня цэлы месяц ужо трывае ўрадавы крызіс у Нямеччыне.

Апошні раз прэзыдэнт даручыў стварэньне ўраду п. Коху, правадыру дэмакратаў, але і той зрокся гэтай місіі.

Тады прэзыдэнт, падзякаваўшы Коху за тое, што яго высілкі прынамся высьветлілі палітычнае

---

лі. Яна ўсім расказывала, што йдзець на Каляды да сына, і гэтакім тонам, гэткай шчасьлівай гутаркай, ажно сяляне з нейкай асобнай павагай пазіралі на яе ды пачалі прасіць, каб яна там у сына за іх заступы прасіла ў судох... Ранюсенька яна зноў кранулася ўдарогу. Скрыпеў сьнег пад яе нагамі, белыя абшары сьнежных палёў драмалі пад супакоем нямой цішы...

Рэдка—рэдка калі дзе на хваі закаркае варона ды, падымаючыся ўверх, страсяне з галін вялікія камы сьнегу...

Рэдка, рэдка калі фурманка пакажацца з лесу. Сярмяжнік занукаець на кабылку сваю на розныя лады, упрэцца ў аглоблю, натужыцца і — ні з мейсца!

Рэдка-рэдка калі званочак зазьвініць, і панскія санкі віхрам панясуцца па нямому беламу гасьцінцу...

А Тэкля ідзець ды ідзець...

Млеюць старыя ногі.. атопкі, як калоды, зрабіліся цяжкія і цьвёрдыя, але нічога—горад блізка.

Ужо здалёку відаць купалы цэркваў і касьцёлаў, каторыя золатам у небе адліваюцца... Вось ужо і муры рознафасонныя мігацяць... Вось ужо і гоман гораду даходзіць да вушэй яе... Дзякаваць Богу... скора ўжо споўніцца яе апошняе жаданьне... У старых мутных вачах блі́снуў радасны аганёк...

— Нічога—ў сына адпачынну, старыя косьці свае выпрастаю!..

Вось пачаліся цёмныя вуліцы шумнага, як бы ашалелага, гораду... Тут ужо Тэкля зьбілася з толку і ня ведала, куды павярнуцца, у каго дапытывацца. Людзі сьпяшаюцца, піргагаюць, звошчык чуць не пераехаў яе. Жутка зрабілася ёй...

Адважылася яна папытацца ў аднаго, другога, дзе тут яе сын жыве? Ен тут „аблакатам“... Лаўруком завецца...

Хто пажартаваў ды паглядзеў на яе, як на дурную... Хто адвярнуўся ды пашоў сваей дарогай, а хто з жалю торкаў ей у руку капеечку.. І гэткім парадкам нехта давёў яе да гарадавога.

Той пачаў распытывацца і, ніякага толку не дабіўшыся, павёў яе ў вучастак. Там яна пераначавала галодная і зьмерзлая. Назаўтра, даведаўшыся, хто гэта яе сын, адвялі яе да яго да самых пакояў.

Стукалася, стукалася яна ў дзьверы, пакуль нехта адчыніў; высунуўшыся напалову і паглядзеўшы на яе, крыкнуў: Ідзі! ідзі! канца няма жабракам гэтым!

— Пусьціце, я да сына свайго іду, да Лаўрука!—ахрыпшым голасам казала яна.

— Да Лаўрука?! да сына?! да Лаврентія Кіпрыяновіча?!—зьдзіваваўся той.

— Ага! ага!—падхапіла Тэкля,—я—яго маці.

Той зьмерыў яе з ног да галавы, пакуль яна расказывала, што яна з вёскі да Лаўрука на Каляды прыйшла, і з усьмешкай пусьціў у кухню.

Тут сабралася таўпа слуг і давай шушукацца і распытывацца.

Тымчасам адчыніліся дзьверы з другой стараны—ды ўвайшоў малады пан у чорным сурдуце.

— Лаўручок мой! Сынок мой! — як няпрытомная кінулася Тэкля да яго ўсім імпэтам матчынага каханьня,..—Роднень... — перасеклася яна на сярэдзіне слова, бо ён раптам пачырванеў, аглянуўшыся на слуг, ды хрыпла крыкнуў:

— Чаму вы пускаеце ў пакоі розных жабрачак шалёных?!

— Ідзі! ідзі!—зьвярнуўся ён да яе глуха, адрывіста, як не сваім голасам.—Ідзі старушка! я цябе... ня знаю!..

— А сынок мой, а Лаўручок ты мой! Маткі сваей не пазнаеш?! — як раненая, крыкнула Тэкля.—Гэ-таж...

— Вон! — загаманіў ён і, бразнуўшы дзьвярыма, пайшоў у пакоі... Той самы лякай выправадзіў яе за дзьверы...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Як зыйшла яна з маляваных сходаў, як апынулася на шумным тратуары каля варот,—яна сама не памятала.. Ачнулася яна толькі тады, калі той самы лякай яшчэ раз выйшаў да яе і торкнуў ён у скурчаныя ад холаду пальцы нейкія бумажкі..

— Ад пана!—буркнуў ён і адвярнуўся...

Старэчыя мутныя сьлёзы затуманілі яе распаленыя вочы, нешта хруснула зламалася ў балючых грудзях ях...

І яна нават ня чула, як з акалелых пальцаў яе выпаў гасьцінец роднага доўгажаданага сына, і некалькі трохрублёвак, як бясцэнныя паперкі, прыліплі да макраватага тратуару...

Зьмітрок Бядуля.

нёй МОПР-а (нелегальнага ў Польшчы і перасьледаванага польскім урадам Міжнародавага Т-ва Помачы Рэвалюцыянерам).

Грам. Луцкевіч, каб аберагчыся ад візытаў не па адрасу заінтэрасаваных у дапамозе МОПР-а асоб, апублікаваў пісьмо, пярэчучы паведамленьню Обста. Ня гледзячы на гэта, у нядзелю, 20 сьнежня, каля 5 гадзін папалудні ў кватэру грам. Луцкевіча зьявіўся нейкі „франт“, які правакацыйна зьвярнуўся да яго, як да „старшыні МОПР-а“. „Франт“ пачаў гутарку папольску, пасьля перайшоў на расейскую мову.

У адказ на зварот правакатара грам. Луцкевіч... „дапамог“ яму „прысьпешаным спосабам“ выбрацца за дзьверы яго кватэры.

**Падзяка.** Урад Беларускага Навуковага Т-ва высказывае гэтым сваю падзяку грам. Грымуце, з Сабакінскай гміны, за прывезеную калекцыю акамянеласьцяў з яго вокаліц і тры медныя манэткі.

**Падзяліліся — „пахрысьціянску“.** Цікава, як падзялілі праваслаўныя іерэі атрыманыя ад ураду 27.000 зл.—пэнсіяў ці „засілкаў“.

З скаргі, паданай дыяканамі і псаломшчыкамі Віленшчыны архіяпіскапу Хвядосу, відаць, што паны іерэі (сьвяшчэньнікі) падзялілі гэтыя грошы толькі між сабой, а аб сваіх меншых братох—дыяканах і псаломшчыках—зусім забыліся.

Зусім у польскім „іерархічным“ стылю: „фінансавая санацыя“ коштам найбяднейшых.

**Эканомія на паліцыі.** Як паведамляе „Dz. Wil.“, сярод віленскай паліцыі зроблены некаторыя абмежаваньні і звальненьні — дзеля агульнай эканоміі скарбу.

Быццам на 1-га сьнежня было звольнена аж 360 паліцыянтаў і маюць быць звольнены 32 паліцэйскія ўрадоўцы.

Слушна дадае газэта, што можна звольніць яшчэ і тых 100 паліцыянтаў, якія разносяць пісьмы і павесткі,—што могуць рабіць паштальёны.

Цікава было-б даведацца, ці гарцуюць яшчэ надалей на канёх тыя 360 конных паліцыянтаў, якіх — дзеля зусім няведамых мэтаў—мястовыя „айцы Баньковскія“ трымалі за грошы, зьдзіраныя з мястовай беднаты?!

## Пісьмо у рэдакцыю.

*Паважаны Грамадзянін Рэдактар*!

У № 8 „Беларуск. Нівы“ ад 12 сьнежня пададзен склад сяброў Камітэт Беларус. Т-ва Дабрачын. ў Городні, дзе ў ліку сяброў лічыцца Прусак, што не адпавядае дзяйсьцвіцельнасьці. Камітэт гэтым заведамляе, што Прусак лічыцца толькі 3-цім кандыдатам у Камітэт.

Старшыня К-ту
Сэкрэтар К-ту } Подпісы неразборчывы.

## З жыцьця Горадні.

× **Бяз віны вінаватыя.** 15-га сьнежня ў Гарадзенскім Акружным Судзе разглядалася справа **дзесяцёх** палітычных вязьняў, прасядзеўшых **па 16 месяцаў**, абвінавачаных па 102 арт. К. К. Абвінавачаныя: Кулініч Ціхан, Кулінка Ігнат, Лучонак Пётра, Труцько Павал, Марчык Язэп, Пераналоцкі Мікалай, Клютко Трахім, Дзямідовіч Мікалай, Каўтун Міхал, Кулініч Мікалай.

Засуджаны адзін толькі Дзямідовіч Мікалай — на год турмы з залічэньнем сьледчага вастрогу; **а 9-х суд апраўдаў.**

Пытаньне: за што-ж іх мучылі 16 месяцаў?

## Карэспандэнцыі.

### Дакучаюць усюды“ „kominiarze“.

(З Дзісеншчыны).

Усякіх „arzy“ маем ажно по горла. Проста не адбіцца ад іх.

Гэтак і ў м. Празароках улетку сёлетняга году „ludzie honorowe“ і „z dobrego towarzystwa“ заклалі агнёвую стражу і выбралі самі сябе ў „зажонд“ і ў начальства гэтае стражы. Вядома-ж: не вясковым-жа „хамам“ быць у „зажондзе“—яшчэ часам зробяць які „замах“. Толькі мы „хамы“ і ня лезем у гэтыя „zarządy“.

Але яно сабе—стража агнёвая, рэч добрая. Толькі ў Празароках яна істнуе ўжо паўгода адно на паперы, а калі што будзе гарэць, дык напэўна досьць будзе, калі „зажонд“ стражы прышле загад, каб пажар сьціх, і полымя мо‘ і згасьне...

Але, калі ўжо „жондзіць“, дык „жондзіць“. І выдаў гэты „зажонд“ загад, каб гаспадары, што месяц чысьцілі коміны—і каб ня самі, а толькі тыя „kominiarze“, што няняў „зажонд“ і плаціць ад коміна па злотаму.

Ну, чым не „апека“. Сам гаспадар, барані Божа, ня лезь на страху, бо можаш зваліцца, а плаці „arzom“ 12 зл. у год (а то і 24, калі два коміны!), дык будзеш здаровы і цэлы. Толькі „зажонд“, пэўна, ня ведае, што злотыя не растуць у лесе, а другое — што, калі „kominiarze“ 12 разоў у год, каб выдабыць сажу, паб‘юць коміны-лежакі, дык тады агнёвай стражы працы не забракнець...

Але „ludzi honorowych“ гэтае мала абходзіць. Іхні загад „musi“ быць выкананы.

Толькі-ж і „простыя сьмяротныя“ знайшлі выхад з палажэньня,—і, каб „kominiarze“ ня білі і не псавалі комінаў і гэтым самым не павялічывалі лічбу пажараў,—дык гаспадары даюць „arzu“ злоты, і... той пакідае комін у супакою, а калі прыдзе пара, дык гаспадар і сам злазіць на стрэху.

Дык і ўсім добра, — толькі сьмех з загаду „зажонду“, а яшчэ больш з самых „ludzi honorowych“.

**Зязюля.**

### Старая казка.

(З Пружаншчыны).

Ня так даўно (у № 17 Жыцьцё Беларуса) я пісаў, як у нашай вёсцы Сашыцы, гм. Селецкай, хварэюць коні і дзеля гэтага забаронена жыхарам хоць і з здаровымі коньмі выяжджаць да коль-колечы.

Паміж іншым не ўмаўчу, што хварэюць коні і ў м. Сяльцу, шмат болей як у Сашыцы, але там нет-ведама чаму выяжджаюць куды хочуць беззабаронна. Коні Сашыцкія лечаць па рэцэпту Пружанскага вэтэрынара, і, хоць вельмі слаба, але-ж лепшаюць. З Бярозы калі-некалі прыяжджае вэтэрынар глядзець, ці добра йдзець лячэньне, але на коні не глядзіць, а зьесьць яечню і... да хаты. Ён толькі і прыяжджае дзеля гэтага і ўжо езьдзіць усё часьцей. З тыдзень ужо таму ён прыяжджаў. Прыехаў гэта ўвечары, паеў яешні, недзе пакруціўся да паўночы, а ў поўнач загадаў „Sołtysowi“ даць яму фурманку ехаць да Пружаны. Солтыс пайшоў шукаць, ды ніхто не схацеў у гэтую пору ехаць гэтак далёка (30 кілям.), „pan“ вэтэрынар загневаўся і пажаліўся войту, які пагражае аштрафаваць солтыса на 15 злотых.

То мне дзіўна. Калі хто выедзе самавольна да коль-колечы з Сашыцы, дык таго аштрафоўваюць, хоць-бы ў яго і здаровы конь; калі-ж пану вэтэрынару схацелася паехаць да Пружаны, дык ізноў за няпослух аштрафоўваюць, ня гледзячы на тое, што з Сашыцы і выяжджаць „nie wolno“.

**В. Тоска.**

### „На выдумкі хітра“.

(Слонімшчына).

П. п. Грабскія, Скшыньскія і Рачкевічы—гэта запраўдныя „геніі“, толькі ў спаганяньні грошы з бедака селяніна. І якіх толькі не павыдумлівалі падаткаў! Ужо ня кажам аб розных маёнтковых, грунтовых, камунальных і др., — а то вось, цяпер у нас выдалі да кожнай хаты № і плаці злоты, да кожнага воза № — таксама злоты. Сьмяюцца людзі, што трэ-б парадзіць п. Скшыньскаму, няхай ужо выдасьць „загад“, каб кожнаму чалавеку на карк № павесілі, ды па злотаму бралі-б, дык гэта-ж аж 27 мільёнаў злотых сабраў-бы (а гэта ў цяперашнія часы для Польшчы не абы што!)! Можна было-б „пазычыць“ не аднаму роднаму і куму.

**„Чорная Сьвітка“.**

## Беларусы у Чэхаславаччыне.

### Беларуская Рада ў Празе.

12 сьнежня 1925 г. адбыўся агульны гадавы сход сяброў Таварыства „Беларуская Рада ў Празе“ пад старшынствам гр. Русака і сэкрэтарстве гр. Каберца.

Выбраны новы прэзыдыум у складзе: Старшыня Рады гр. В. Захарка; намесьнік старшыні гр. М. Вяршынін; сэкрэтар гр. Б. Лаўскі.

Вольныя сябры грамадзяне: В. Грышкевіч і М. Каберац.

Прынята ў Раду 8 новых сяброў.

## БІБЛІАГРАФІЯ.

Календар **„Приятель Господаря“ на рік 1926** під редакцією **агр. Эвг. Архіепенка** выд. Сельскаго Світу.

Календар выданы ў украінскай мове і пераважна для ўкраінскіх сялян. Выданьне—вельмі прыгожае ды багатае па зьместу, і кожная стацейка ў ім апрацована, як відаць, знаючым свой Край і абставіны спэцыялістам. Вычуваецца, што календар гэты зьяўляецца навінкай для ўкраінца-гаспадара, дзеля таго шчыра жадаем яму апынуцца пад кожнай украінскай стрэхай, служачы падняцьцю ўкраінскага земляробства. Цана вельмі даступная пры цяперашней дарагоўлі.

Сьмела скарыстаць з яго сельска-гаспадарскага аддзелу могуць і нашы сяляне з паўднёвай часткі Беларусі.

**Ян.**

## Юрыдычныя парады.

### Падпішчыну?

1) *Запытаньне*: Якую плату мы павінны плаціць за пашу ў урадавых лясох? —Адміністрацыя вымагае па 1,5 зл. у месяц ад штукі.

*Адказ*: За пашу бяруць паводлуг таксы, каторую вызначае ўрад.

2) *Запытаньне*: Бацька памёр у 1908 г., пакінуўшы трое дзяцей: двух сыноў, з каторых адзін жыве ў Расеі, і незамужнюю дачку, прыехаўшую з Расеі ў 1923 годзе да брата, каторы яе прыймае да сябе. На якую часьць бацькаўшчыны мае права дачка?

*Адказ*: Мае права на $^1/_{14}$ часьць.

3) *Запытаньне*: Мой родны брат жыве ў Расеі, вёска карыстае яго зямлёй, ці маю я права адабраць зямлю і карыстацца ёй?

*Адказ*: Пакуль ня зложыце дакумэнтаў, што брат памёр, зямлі дахадзіць ня можаце, а можна прасіць Акружны Суд, каб назначыў апеку, але з некатарых прычынаў гэтага рабіць ня радзім.

4) *Запытаньне*: У 1907 г. мной пазычаны пад вэксэль грошы на куплю зямлі. Даўжнік жыве ў Расеі. Ці маю права карыстацца гэтай купленай зямлёй?

*Адказ*: Такога права ня маеце.

### Падпішчыку Будніку.

1) *Запытаньне*: Яшчэ да вайны наша вёска купіла зямлю праз Сялянскі Пазямельны Банк і да вайны выплачвалі, а вайной былі ў Расеі, зямлёй не карысталіся, а так-жа не плацілі. Цяпер нейкі банк сысківае грошы з тых гадоў, у каторых мы зямлёй не карысталіся.

*Адказ*: Трэба зьвярнуцца да таго банку, каторы ўзысківае цяпер з Вас грошы.

2) *Адказ*: Можна было жаліцца Галоўнаму Земскаму Ураду (Główny Urząd Ziemski), другога спосабу няма.

### Падпішчыку Зяновічу.

*Запытаньне*: Polska Dyrekja Ubiezpieczeń Wzajemnych спаганяе з нас страхоўку каля $2^1/_2$ проц. тагды, калі другія плацяць толькі 1%. Мы, зьвярталіся да „Dyrekcji“ ў Вільні і атрымалі адмоўны адказ.

*Адказ*: Можна падаць скаргу ў Гэнаральную Дырэкцыю ў Варшаве.

### Гр. Б. Карніцкаму.

*Адказ*: Нічога адказаць ня можна, бо не напісалі, хто рабіў дапрос у Слоніме і дзе асталася стрэльба.

### Гр. Сьветавастокаву.

*Адказ*: Падайце скаргу да прэзэса Акружнага Суда ў Вільні.

### Падпішчыку Беларусу.

*Адказ*: Ваша справа добрая, але самі нічога не парадзіце, трэба зьвярнуцца да адваката.

## БІРЖА.

| | Прадажа. | Купля. |
|---|---|---|
| Даляр | 9.39 | 8.98 |
| Золата | — | — |



Рэдактар-Выдавец: **Ян Марцінеўскі.**

Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.